# НАШ Магілёў



Незалежнае грамадзка - палітычнае выданьне Гораду

Травень, 2008 год

# 34

www.nmahileu.org




*Магілёўскія дэмакраты*

Юры Стукалаў, сябра моладзевай грамадзкай арганізацыі "Грамадзянскі Форум", сябра аргкамітэту Партыі Свабоды і Прагрэсу

## Зьнішчыць нельга скардзіцца

✍Андрэй Воўкаў

**У сярэдзіне працоўнага дня, больш за 70 жыхароў выйшла пратэставаць супраць будаўніцтва АЗС па вуліцы Сіманава. Некаторыя прыходзілі проста з працы. Гучалі заклікі нават зруйнаваць будаўніцтва сваіма сіламі.**

Напярэдадні па раёну былі разклееныя абвесткі, з анонсам сустрэчы. Цэнтральнай падзеяй сустрэчы быў прыезд дзяржаўнага тэлебачаньня.

Нагадаем, што пачынаючы з 23 красавіка папросту пад вокнамі будынку па вуліцы Сіманава № 69 пачаліся будаўнічыя работы. Замоўнікам будаўніцтва ёсьць РУП "Белнафтахім", "Белоруснефть". Выканаўцам – ТАА "Трансстрой".

Сход адбыўся ля будынку № 69. Падчас акцыі грамадзяне зьбіралі подпісы пад заявай ў раённую пракуратуру й пад грамадзкім дакумантам, які мае вызначыць іхную думку наконт будаўніцтва АЗС, паводле дзеючага заканадаўства.

Грамадзяне выказалі сваю думку дзяржаўнаму тэлебачаньню без залішніх комплексаў: гучаліў нават заклікі ўзарваць АЗС. Але галоўнымі аргуманамі было тое, што проста не сумленна будаваць гэтакій аб'ект у 15 мэтрах ад жытловага будынку.

Сустрэча праходзіла пры непасрэднай падтрымцы Творчай групы "Наш Магілёў". Адзін з каардынатараў ТГ "Наш Магілёў" заклікаў жыхароў да канструктыўнай барацьбы за свае законныя інтарэсы:

- Варта рыхтавацца да шматмесячнай перапіскі: раённая пракуратура хутчэй за всё адмовіць, на абласную – надзеі таксама мала, але Гэнеральная пракуратура абавязкова звярне ўвагу на галавацяпства мясцовага чынавенства. Мова тут ідзе не пра хабары Шорыкаву й Батуры, але пра тое, што яны нават не падумалі калі пад вокны Вам уціснулі гэтую заправку. Пры гэтым, праз гэтае будаўніцтва, прыйдзецца пераносіць дарогу, што вядзе на Грэбянёва, а гэтае папросту ёсьць злачынным выкарыстаньнем бюджэтных сродках у інтарэсах асобных прадпрыемстваў.

Юры Ермаловіч, выканаўца працы з боку ТАА "Трансстрой" да грамадзянаў не выйшаў, але нашаму карэспандэнту распавёў, што такую самую АЗС ён будаваў на мікараёне "Ювілейны":

- Я гарантую, што аб'ект будзе бясьпечным, - пры гэтым Ермаловіч адмовіўся каментаваць дазвол гарвыканкаму на будаўніцтва, але даў зразумець, што небясьпекі для жыхароў не бачыць.

Жыхары засталіся настроенымі рашучы, пры гэтым пяцёра дэлегатаў у гэтый жа дзень накіраваліся на прыём да старшыні гарвыканкаму Шорыкава. Жыхары мяркуюць, што барацьба ня можа прынесьці імгненных вынікаў, але пагадзіліся "ісьці да канца":

Тым часам, Юры Ермаловіч паведаміў, што пры будаўніцтве АЗС на "Ювілейным" у іх былі праблемы з фізычным разбурэньнем жыхарамі будаўніцтва. Ён запэўніў, што на пляцоўцы па вуліцы Сіманава працуе кваліфікаваны вартаўнік.



Аўтазапраўка пад вокнамі будынку № 69



Жыхары на сходзе

## Шорыкаў прыпыне будаўніцтва???

✍Саша Заяц

**Усё пачалося з рэгістрацыі жыхароў на прыём да мэра. Адна з грамадзянак на сваё прозьвішча зарэгістравала чаргу на прыём. Прыехаўшы ў гарвыканкам, іх не пушчалі, маўлялі, трэба было прыехаць з пашпартам і зарэгістраваць сваі дадзеныя. Праз паўгадзіны спрэчак жанчынаў пусьцілі да старшыні.**

- Ягоны намесьнік, спадар Студнеў, адразу адзначыў, што на пісьмовы зварот па гэтаму пытаньні ўжо дадзены адказ, які, маўляў, пэўна яшчэ не дайшоў да адрэсату, – паведаміла нам адна з наведвальнікаў мэра, спадарыня Брызгалёва. – Потым ужо спрэчка йшла разам з самім старшынёй. Спачатку ён, быццам бы, не мог зразумець, дзе знаходзіцца будаўніцтва (і гэта старшыня гарвыканкама, які даваў дазвол на будаўніцтва!), а пасьля таго, як мы намалявалі яму падрабязны плян, ён пачаў пераводзіць тэму на больш хвалючыя пытаньні. Пасьля амаль гадзіны спрэчкі й доказаў, ён вырашыў. "Заўтра, - маўляў, - сам з'езджу на будаўніцтва, мы яго спынім, а ў пятніцу а дванаццатай гадзіне прыходзьце за адказам у гарвыканкам".

Жыхары нібыта й задаволеныя: "Вось, мэр нас пачуў і пабяцаў спыніць". Аднак ... Намеснік мэра, спадар Студнеў, які ўвесь час быў супраць спыненьня будаўніцтва, у перададзенай копіі адказу на зварот адзначыў, што ўся будоўля дазволеная на аснове ўзгаднённай і зацьверджанай дакумэнтацыі. Што аніякіх парушэньняў няма.

Большая частка ініцыятыўных жыхароў не спадзяваюцца на дапамогу гарвыканкаму - тых, хто гэтае дазволіў. Пацьвярджэньне гэтаму – сбор подпісаў у раённую пракуратуру.

## Трэба верыць, што ўсё ў нашых руках, і толькі тады ма пераможам!

**Чаму я ў апазіцыі?**

Я ў апазіцыі да сучаснай улады таму, што мяне, як грамадзяніна які думае, не задавальняе цяперашняе якасць жыцця. Няма сапраўднай свабоды для развіцця кожнага патрыёта сваёй Радзімы. У цяперашніх умовах кожнага "вольнадумца" мусяць знішчыць, бо ўладзе не патрэбны людзі, якія думаюць па-свабоднаму, жадаюць палепшыць свой дабрабыт і дабрабыт сваёй Радзімы. Таму я буду змагацца за гэта да канца.

**З чаго ўсё пачыналася?**

Усё пачалося з маленства. Яшчэ тады ў мяне былі дэмакратычныя погляды і мне не падабалася тое, што адбываецца ў нашай краіне. Першым крокам сваёй барацьбы я лічу 7 снежня 2005 года, калі ў рэспубліканскай газеце "Свободные новости" апублікавалі мой адказ на конкурс, які праводзіла гэтая газета пад назвай " Што бы я зрабіў, калі б стаў прэм'ер-міністрам?". У свайм лісце я адказаў так, пад чым і падпісваюсь сёння. У ім было маё бачанне сапраўднага дэмакратычнага развіцця Беларусі. Але сур'езна займацца апазіцыйнай дзейнасцю я пачаў не так даўно. У канцы снежня 2007 года, разам са сваімі сябрамі, арганізавалі незалежную студэнцкую суполку, як рэакцыю на адмену льготаў. Пазней, у пачатку 2008 года, я пазнаёміўся з вядомым магілёўскім апазіцыянерам Аляксандрам Сілковым, з якім пачаў працаваць разам і працую да гэтага моманту. Менавіта пачатак працы з Аляксандрам і аргкамітэтам ПСП я лічу сапраўднай адпраўной кропкай у маёй дзейнасці. З гэтага часу мы працуем у межах магілёўскай гарадской кааліцыі дэмакратычных сіл, прымаем удзел у розных мерапрыемствах.

**Ці адчуваецца ціск з боку ўлады?**

Сапраўдны ціск з боку улады я адчуў 15 красавіка, калі мяне выклікалі ў магілёўскі ваенкамат, дзе мяне чакаў супрацоўнік УКДБ па Магілёўскай вобласці капітан Патапаў. Ён пачаў мне распавядаць пра тое, што мая дзейнасць дэстабілізуе палітычную абстаноўку ў горадзе. Капітан таксама прапанаваў не займацца палітычнай дзейнасцю, або дзейнічаць пад пільным вокам КДБ. На сваю прапанову ён, зразумела, атрымаў адмоўны адказ. Тады у мой бок пайшлі пагрозы, што мяне могуць выключыць з ВНУ і ўжо восеньню я пайду ў войска з гэтага ваенкамата. КДБіст цікавіўся маімі паездкамі за мяжу, а таксама адносінамі з вядомым палітыкам Уладзімірам Навасядам, старшынёй аргкамітэту ПСП. Другі выпадак увагі з боку дзяржавы адбыўся тады, калі мы ішлі разам з Міколай Расюком (сябрам БСДП) і яшчэ некалькамі апазіцыянерамі на афіцыйны жалобны мітынг 26 красавіка. Нас пачалі даглядаць палкоўнікі і падпалкоўнікі. Пасля дагляду спадара Расюка, затрымалі. Я лічу, што гэтымі дзеяннямі улада цалкам дэскрэдытуе сябе.

**У чым ты бачыш выхад са склаўшайся сітуацыі?**

Выхад са склаўшыйся сітуацыі я бачу адзін. Трэба змагацца за свае правы і тлумачыць маладым людзям дзе праўда, а дзе не. Трэба верыць што ўсё ў нашых руках і толькі тады мы пераможам!

✍Гутарку вёў Вітольд НЯЎРЫДА

# Беларусь собиралась поставлять оружие колумбийским наркобаронам?

БелаПАН

**Венесуэла с помощью Беларуси намеревалась поставлять оружие для повстанцев из Революционных вооруженных сил Колумбии (FARC). Об этом говорится в статье, размещенной 10 мая на сайте испанской газеты "Эль Паис".**

Со ссылкой на свои источники в колумбийском правительстве издание сообщает о письме, найденном в компьютере одного из лидеров боевиков Рауля Рейеса, который был убит 1 марта в результате спецоперации колумбийской армии. Это письмо датировано 8 февраля и подписано одним из членов секретариата FARC Иваном Маркесом, который сообщает, что Уго Чавес "рассмотрел с белорусскими властями возможность поставок вооружения". "Наш белорусский друг продолжает работу над пакетом (возможно, имеется в виду пакет документов. — БелаПАН.) о путях к черному рынку, чтобы решить проблемы, — цитирует газета выдержки из письма. — 17 числа этого месяца (февраля. — БелаПАН.) в Каракас прибудет делегация высоких представителей от этого друга, чтобы уточнить список. Ангел просил, чтобы мы были здесь и лично договорились с делегацией".

По данным "Эль Паис", Ангел — это псевдоним Уго Чавеса. "А друг — это Виктор Шейман, госсекретарь Совета безопасности Беларуси, человек очень приближенный к Александру Лукашенко. Шейман был одним из тех, кто продвигал контракты на поставку оружия в Венесуэлу на сумму в 720 млн. евро, которые были подписаны в прошлом году", — утверждает газета.



Стоит отметить, что 15-19 февраля состоялся официальный визит в Венесуэлу белорусской делегации во главе с государственным секретарем Совета безопасности Виктором Шейманом.

В ходе визита были достигнуты договоренности о принципах финансирования проектов строительства в Венесуэле заводов с участием МАЗа, БелАЗа и МТЗ, о начале реализации проектов строительства пяти тысяч квартир и реконструкции в Каракасе района Мирафлорес, о создании совместного предприятия по бурению и ремонту нефтяных скважин.

Несерьезно обращать внимание на всякие домыслы, к распространению которых подключилась испанская пресса. Об этом БелаПАН заявили в пресс-центре Государственного секретариата Совета безопасности Беларуси, комментируя статью, появившуюся 10 мая на сайте влиятельного издания "Эль Паис".

Как отметили в пресс-центре Государственного секретариата Совета безопасности, недавно президент Венесуэлы Уго Чавес предупреждал о том, что США организуют вброс в СМИ информации подобного рода — псевдокомпромата.



## Завершено расследование по уголовному делу о "живом щите"

БелаПАН

**Прокуратурой Минской области завершено расследование уголовного дела в отношении сотрудников Госавтоинспекции, которые 2 марта 2008 года под Минском остановили гражданские машины, чтобы задержать пьяного водителя Романа Ментюка.**

Как сообщила БелаПАН адвокат потерпевших Вера Стремковская, они уже ознакомились с материалами дела, которое в ближайшее время будет направлено в суд.

Уголовное дело по ч. 1 ст. 424 Уголовного кодекса (злоупотребление властью или служебными полномочиями) было возбуждено в отношении четырех сотрудников ГАИ Октябрьского РУВД столицы 14 марта. В отношении двоих из них, прибывших на место происшествия после ДТП, расследование было прекращено. Оставшиеся двое своей вины не признают, сказала В.Стремковская. Они находятся под подпиской о невыезде.

По словам адвоката, потерпевшие направили в прокуратуру ходатайство о повторном проведении судебно-медицинской экспертизы, поскольку ни один из них не согласен с выводами первой СМЭ.

Потерпевшие в ДТП 2 марта заявили также гражданский иск к сотрудникам ГАИ о возмещении морального и материального ущерба. В качестве моральной компенсации каждый из них требует по 50 млн. рублей, материальной — 25 млн. рублей в общем.

Р.Ментюк находится в розыске. Уже будучи в бегах, он обокрал свою бывшую подругу.




# "Белорусский след" в поставках оружия колумбийским боевикам подтверждает Интерпол

БелаПАН

**Интерпол подтвердил подлинность файлов в компьютерах, изъятых колумбийскими властями 1 марта у повстанцев из Революционных вооруженных сил Колумбии (РВСК). Об этом было заявлено 15 мая на пресс-конференции в Боготе (Колумбия), где были представлены результаты судебной экспертизы компьютеров и комплектующих к ним, сообщает официальный сайт Интерпола.**

Напомним, 1 марта колумбийские правительственные войска при поддержке авиации провели спецоперацию против боевиков РВСК, в результате которой был убит один из лидеров организации Рауль Рейес. По сообщениям властей Колумбии, в изъятых в ходе спецоперации компьютерах содержалась информация, свидетельствующая о том, что Венесуэла оказывает поддержку РВСК.

10 мая испанская газета "Эль Паис" со ссылкой на свои источники в колумбийском правительстве сообщила, что в компьютере Р.Рейеса было найдено письмо, датированное 8 февраля и подписанное одним из членов секретариата РВСК Иваном Маркесом. В письме говорилось, что Уго Чавес "рассмотрел с белорусскими властями возможность поставок вооружения". "Наш белорусский друг продолжает работу над пакетом (возможно, имеется в виду пакет документов. БелаПАН.) о путях к черному рынку, чтобы решить проблемы, цитирует газета выдержки из письма. 17-го числа этого месяца (февраля. БелаПАН.) в Каракас прибудет делегация высоких представителей от этого друга, чтобы уточнить список. Ангел просил, чтобы мы были здесь и лично договорились с делегацией".

По данным "Эль Паис", Ангел это псевдоним Уго Чавеса. "А друг это Виктор Шейман, госсекретарь Совета безопасности Беларуси, человек очень приближенный к Александру Лукашенко", утверждала газета.

Напомним, белорусская делегация во главе с В.Шейманом находилась в Венесуэле 1519 февраля.

Президент Венесуэлы обвинил Колумбию в подделке данных компьютерных файлов. В связи с этим колумбийские власти обратились в Интерпол с просьбой провести независимую экспертизу изъятых компьютеров.

"Основываясь на нашей всесторонней экспертизе, Интерпол пришел к выводу, что не было никаких изменений в данных после изъятия компьютеров властями Колумбии 1 марта", - заявил генеральный секретарь Интерпола Рональд Нобль. По его словам, эксперты не обнаружили "никаких свидетельств модификации, редактирования, добавления или удаления" пользовательских файлов на трех изъятых ноутбуках, трех USB-накопителях и двух жестких дисках.

Представитель Интерпола подчеркнул, что специалисты подтверждают подлинность только самих файлов, но не содержащихся в них сведений.

## Ситуация в Беларуси в последнее время беспрецедентна

**"Ситуация, которую мы наблюдаем в последнее время в Беларуси, беспрецедентна", — заявил временный поверенный в делах США Джонатан Мур 16 мая во время онлайн-конференции на сайте газеты "Комсомольская правда" в Белоруссии".**

Дж.Мур отметил, что "в истории было несколько примеров", когда США вынуждены были закрывать свои дипмиссии. "Конечно, посольства закрываются во время военных действий, — сказал дипломат. — Очень редко посольства закрывались по политически причинам. Одним из таких примеров является Куба, где посольство США было закрыто в 1960 году, и американские дипломаты не возвращались туда в течение 17 лет".

Напомним, еще 13 ноября 2007 года Минфин США ввел санкции в отношении "Белнефтехима". Эти санкции предусматривали замораживание всех находящихся под юрисдикцией США банковских счетов концерна и его представительств в Германии, Латвии, Украине, России и Китае, а также счетов дочерней компании "Белнефтехим Ю-Эс-Эй". Кроме того, американским бизнесменам предписывалось воздержаться от контактов с концерном.

В марте 2008 года были опубликованы уточнения, согласно которым под действие санкций попадали предприятия, доля "Белнефтехима" в которых составляет 50% и более.

После этого из Вашингтона для консультаций был отозван посол Михаил Хвостов. 12 марта Минск по настоянию белорусской стороны покинула посол США Карен Стюарт. Затем американской стороне было рекомендовано сократить численность сотрудников дипмиссии. 27 марта Минск покинули 17 американских дипломатов.

31 марта Беларусь приняла решение о дополнительном сокращении персонала своего посольства в Вашингтоне и предложила США сделать то же самое. Соединенные Штаты Америки отказались сокращать численность сотрудников своего представительства. 30 апреля МИД Беларуси объявил 10 американских дипломатов персонами нон грата. 3 мая они покинули Беларусь.



## Людзі на балоце

✍Саша Заяц

**Жыхар спадзяецца на камунальнікаў, але зліва ў яго кватэры ад гэтага не прыпыняецца.**

Камунальнікі за чатыры месяцы гэтак і не прыйшлі ані зафіксаваць факт затаплення, ані адрамантаваць дах.

У аднапакаёвай кватэры на апошнім паверсе з-за працяканьня даху ўжо чацьвёрты месяц у натуральным сэнсе ідзе дождж. Залівае ўсюды вада цячэ і на кухні, і ў прыхожай, і ў комнаце. Шпалеры ды падлога заўжды ў вадзе, у ванным пакоі ад зьлівы са столі адвальваецца штукатурка. Жыць ва ўмовах такой вільготнасьці проста не магчыма.

- На працягу чатырох месяцаў я даводзіў да ведама ЖЭУ-20 аб тым, што працякае дах і залівае маю кватэру. Тройчы прыходзіў у домаўпраўленьне, астаўляючы свае нумары тэлефонаў, каб прадстаўнікі камунальнікаў у зручны для іх час прыйшлі зафіксаваць факт працяканьня даху, - расказвае Леанід, уладальнік няўдалай кватэры па вуліцы Гогаля.

Аднак і па сёняшні дзень ЖЭУ не знайшло часу для агляду кватэры. З месяц назад жыхар падаў афіцыйную заяву да начальніка жыллёвага ўпраўленьня і папрасіў зарэгістраваць яе. Але ад рэгістрацыі адмахнуліся. Не так даўно Леанід зноў зьвярнуўся да камунальнікаў, яны паабяцалі знайсьці яго заяву і зайсьці “ў госьці” для састаўленьня акту. Аднак чаканьне цягнецца і дагэтуль.

Яшчэ адну афіцыйную заяву разачараваны уладальнік падаў ужо да ЖРЭУ Ленінскага раёна. І настаяў на рэгістрацыі ў яго прысутнасьці. У гэты ж дзень патэлефанаваў майстар ЖЭУ-20 і паабяцаў: “сёння прыйдзем”. Але не прыйшлі ані “сёньня”, ані назаўтра, ані напасьлязаўтра.

А дождж усё лье ды лье. Ваду Леанід зьбіраць нават не спрабуе хай, маўляў, цячэ далей, залье суседа з нізу, можа тады лягчэй будзе прывесьці камунальнікаў.

Колькі яшчэ чакаць камунальнікаў і глядзець на “сьлёзы” даху, і куды зьвяртацца яшчэ Леанід проста не ведае.

# У строителей обнаружили “политическую близорукость"

✍Алекс Вольный

**Шесть из девяти работников могилёвского "Промжилстроя" отказались от написанных месяцем ранее жалоб.**




Писали они в администрацию президента и начальнику областной инспекции труда.

В частности, в "отказном" письме на имя руководителя вышестоящей организации концерна "Белнефтехим" говорится, что ранее написанное не имеет ничего общего с действительностью.

Оказывается, что в реальности на объекте по улице Тимирязьевской все работники обеспечены современными бытовыми помещениями, спецодеждой и инструментами. А вопрос о заработной плате разрешён самостоятельно с руководством ОАО "Промжилстрой".

Далее работники утверждают, что факты, указанные в их жалобах, якобы, искажены, а их "политической близорукостью" воспользовалось доверенное лицо из свободных профсоюзов.

Речь в данном случае об известном активисте РЭПа Алексее Павловском. Он на самом деле узнал о нарушениях трудовых прав работников и предложил свою помощь. Он же сделал фотографии бытовых условий строителей, которые также отправил в инспекцию труда.

Заметим, что первоначальную жалобу подписало девять человек, а отказалось от неё только шесть. Возникает вопрос: а что же с остальными? Или может они ещё не успели заразиться такой опасной болезнью, как "политическая близорукость"?

— Никакая это не "политическая близорукость", а обыкновенный страх после давления руководства, — комментирует Алексей Павловский.

Со слов активиста, его интерес, как бывшего строителя, в этом деле один: заставить власти уважать простых работяг и соблюдать их права. Именно за это Алексей боролся и борется на протяжении последних десяти лет.

Ну а то, что факты, указанные в жалобах всё-таки имели место, подтверждается неопровержимыми доказательствами. Во-первых, фотографии. И во вторых, это ответ за подписью заместителя председателя концерна "Белнефтехим" Михаила Осипенко, из которого следует, что руководством "Промжилстроя" всё же разработаны мероприятия по устранению нарушений законодательства о труде и охране труда.

Вывод однозначен: зарплата работников и бытовые условия изменились в лучшую сторону именно после подачи ими жалоб, а не просто потому, что руководство "Промжилстроя" вдруг снизошло к народу.

Ну, а что касается "политической близорукости" ,то тут, по мнению Алексея Павловского, кто-то из строителей или их руководителей явно перепутал время — лексика и методы явно "из другой оперы".

# Піва і камсамол - несумяшчальна

✍Саша Заяц

**БРСМ прапанавала ўвесьці адміністрацыйную адказнасьць за ўжываньне піва ў грамадскіх месцах.**

На трэцяй магілёўскай канферэнцыі ГА “БРСМ”, якая адбылася 15 траўня, у прысутнай моладзі была магчымасьць задаць пытаньні старшыні гарвыканкама Віктару Шорыкаву. Усе пытаньні былі загадзе падрыхтаваны, вычытаны, завучаны і ўзгаднены. Аніхто незаплянавана да мікрафону не падыходзіў.

Галоўны сьпецыяліст гарадскога камітэту БРСМ Аляксандр Шлык у сваім выступленьні, якое тычылася моладзевых дабраахвотных дружынаў, уснёс прапанову да мэра: зьмяніць нормы такім чынам, каб уключыць піва ў шэраг спіртавых напояў, а не алкагольных. Такім чынам, чалавека, які будзе ўжываць піва ў грамадскіх месцах, можна будзе не толькі папярэджваць, а прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасьці.

Мэр анічога не адказаў і ніяк не прарэагаваў. А зала, у якой прысутнічала амаль толькі моладзь, зашумела. - Вось з-за такіх потым уся моладзь і пакутуе. І ўсе гэтае з-за прымусу. Трэба было штосьці прапанаваць, а калі аніякіх праблемаў БРСМ не бачыць, дак давайце прапануем гэтае. Штосьці ж трэба прапаноўваць. Я думаю, што спадар Шлык сам неадночы, седзячы дзе-небудзь на лаўцы, выпіў піва бутэльку-другую, - узрушаецца дэлегат канферэнцыі.

А што яшчэ можна было прапанаваць, як не забарону. Вядома, пралукашэнскі камсамол жыве савецкімі часамі, “сухімі законамі”, прымусамі і абмежаваньнямі.




**На мітынг да Дня перамогі да недабудаванай Ратушы апазыцыйныя камуністы прыйшлі са сваімі партыйным сьцягамі. Фота “Радыё Свабода”**

# За апазыцыянэрамі на ўрачыстасьцях сачылі

✍Радыё Свабода (Магілёў)

**У Магілёве на афіцыйных урачыстасьцях да Дня перамогі сяброў Партыі камуністаў беларускай суправаджалі людзі ў цывільным. Пад наглядам знаходзіўся й кіраўнік абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ўладзімер Шанцаў**

Пятнаццаць сяброў ПКБ з партыйнымі сьцягамі ўдзельнічалі ў парадзе вэтэранаў, мітынгу ды тэатральным прадстаўленьні да Дня перамогі ў Магілёве. Актывісты апазыцыйнай камуністычнай арганізацыі, пераважна людзі сталага веку, на парадзе распаўсюджвалі газэту “Товарищ” ды інфармацыйны бюлетэнь абласной арганізацыі ПКБ “Комунист Могилёвщины”. За імі неадступна сачылі людзі ў цывільным.

“У Дзень перамогі гэтага не павінна быць. Я перакананы, што няма ніводнага беларуса, грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, які б без павагі ставіўся да гэтага сьвята. Псаваць яго канечне вось гэтым наглядам ніяк нельга”,-- зазначыў “Свабодзе” кіраўнік абласной арганізацыі ПКБ Валер Беразіенка.

Людзі ў цывільным сачылі й за кіраўніком абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ўладзімерам Шанцавым. Ён суправаджаў на ўрачыстасьцях сваю маці - вэтэрана другой усясьветнай вайны.

“Баяцца чагосьці. Ёсьць такая прымаўка: разумны шукае сяброў, а дурань ворагаў. На гэтым сьвяце шукаць ворагаў бессэнсоўна. Гэта сьвятое сьвята. Гэта маё асабістае сьвята. Чакаць ад мяне правакацыяў… Ня ведаю. Ці ёсьць у гэтым сэнс”, гэтак пракамэнтаваў Уладзімер Шанцаў пільнаваньне людзей у цывільным.

Валер Беразіенка адзначыў, што на сёлетнім сьвяткаваньні значна меней было сьцягоў перамогі й цалкам адсутнічала беларуская мова:

“Сьцяг перамогі, зь сярпом і молатам, цяпер ужо ня ў модзе ў Беларусі й я ня ведаю як гэта патлумачыць. Сьвяткуем мы Дзень перамогі ў Беларусі. Рэспубліка-партызанка зрабіла вялікі ўнёсак у перамогу, а ўсе прамовы на рускай мове. Так не павінна быць”.

# Прэвентыўнае затрыманне на 1 траўня

✍Вітольд НЯЎРЫДА

**У Магілёве падчас афіцыйнага дзяржаўнага мітынга, прысвечанага дню працы, быў затрыманы рабочы-будаўнік, сябра БСДП (Грамады) Мікола Расюк.**

“Я дамовіўся сустрэцца са сваім працоўным калектывам каля “Дом Быта”, - распавядае Мікола Расюк, - але быў затрыманы на падыходзе да яго. Адзін з міліцыянераў сказаў, што я падазраюся ў нейкім злачынстве і трапляю пад прыкметы і што для разбіральніцтва мне неабходна прайсці ў Ленінскі РАЎС. Пасля таго, як я зразумеў, што маім планам, прайсціся са сцягам Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі разам з мітынгуючымі не ўдасца здзяйсніцца я дастаў сцяг і абматаў яго вакол сябе. На дзіва, міліцыянты не мелі нічога супраць”. У Ленінскім РАЎСе Міколу Расюка пратрымалі крыху больш чым за дзве гадзіны. Міліцыяты запытвалі яго ці быў ён некалькі дзён назад у Пінску, дзе адбылося злачыства, якое здзяйсніў чалавек, які знешне вельмі падобны на Міколу Расюка. Ён сказаў што ў гэты час знаходзіўся ў Магілёве.

У мяне было каля двух дзесяткаў асобнікаў газеты “НАШ Магілёў”, якую мне вярнулі пасля дагляду рэчаў, забраў толькі некалькі асобнікаў для азнаямлення. Партыйны сцяг таксама не забіралі. Я прачытаў супрацоўнікам міліцыі лекцыю пра тое што такое дэмакратыя і якія павінны быць узаемаадносіны на працы паміж начальнікам і падначаленым. Яны слухалі і згаджаліся”, - гаворыць рабочы-будаўнік.

Пасля таго як мітынг скончыўся, Міколу Расюка адпусцілі.

# Патаемны сын:
## палітыка як мэксыканскі сэрыял

Юры Дракахруст
"Радыё Свабода"

**Напачатку перабудовы савецкія людзі захапляліся мэксыканскімі сэрыяламі, галоўны сюжэт якіх круціўся вакол высьвятлення трапяткой праблемы, чый сын дон Пэдра. Зараз у беларускай палітыцы разварочваецца нешта падобнае.**



Яшчэ летась на прэсавай канфэрэнцыі Аляксандар Лукашэнка заявіў, што прэзыдэнтам стане ягоны надзвычай таленавіты малодшы сын. Тады ўсе гадалі, пра каго ідзе размова, здаецца, Дзьмітры — малодшы сын кіраўніка дзяржавы ад шлюбу з жонкай Галінай, ніякімі асаблівымі здольнасьцямі не вызначаецца і, у адрозьненьне ад старэйшага брата Віктара, які стаў дарадцам прэзыдэнта, у палітыку ня лезе.

Але сёлета кіраўнік дзяржавы стаў паўсюль зьяўляцца з бялявым маленькім хлопчыкам: на суботніку, на конкурсе прыгажосьці, на хакейным матчы хлапчук паўсюль быў з Лукашэнкам.

Выступаючы ў Хойніках на гадавіну Чарнобыльскай катастрофы, Аляксандар Лукашэнка паўтарыў, што прэзыдэнтам Беларусі стане ягоны малодшы сын. І тады ж агенцтва "Інтэрфакс", камэнтуючы гэтае выказваньне, напісала, што ў кіраўніка дзяржавы ёсьць тры сыны — Віктар, Дзьмітры і малодшы чатырохгадовы Мікола.

Потым агенцтва зьняла гэтую інфармацыю, але яе шырока распаўсюдзілі многія мэдыі, у тым ліку і тыя, што маюць вялікія наклады. Пры гэтым ніякіх абвяржэньняў, судовых зыскаў да выданьняў за паклёп і сьвядомую хлусьню не было.

У нядзельнай праграме ОНТ "Контуры", прысьвечанай паездцы кіраўніка дзяржавы на Берасьцейшчыну, ізноў фігураваў бялявы хлапчук. Пры гэтым было паказана, як падчас частаваньня блінамі ён спытаў Аляксандра Лукашэнку: "Тата, чаму ён халодны?" Дыктар гэтак жа халодна потым назваў хлапчука "Лукашэнкам-малодшым", як быццам казаў нешта ўсім вядомае

Хто маці Міколы Лукашэнкі — не паведамляецца.

Дарэчы, дзяцей, ненароджаных у шлюбе, мелі многія кіраўнікі дзяржаваў. Толькі пасьля сьмерці прэзыдэнта Францыі Франсуа Мітэрана стала вядома пра ягоную дачку Мазарын, народжаную ад Анн Пэжно, якая мела нават свае пакоі ў Елісейскім палацы, рэзыдэнцыі свайго высокапастаўленага каханка. Дарэчы, Мазырын потым узяла прозьвішча бацькі і занялася палітыкай.

Прэзыдэнт Бразыліі Фэрнанда Дэ Мэла прызнаў свайго сына, народжанага па-за шлюбам , толькі калі таму споўнілася 18 гадоў, пасьля правядзеньня экспэртызы ДНК хлопца.

Іншыя гісторыі такога кшталту — хутчэй паказкі, чуткі, але варта прывесьці і іх.

Па некаторых зьвестках, трэці прэзыдэнт ЗША Томас Джэфэрсан меў сына ад чорнаскурай рабыні. 22-га амэрыканскага прэзыдэнта Гровэра Кліўлэнда таксама абвінавачвалі ў тым, што ў яго ёсьць незаконна народжаны сын.

Пераемнік бразыльскага прэзыдэнта Дэ Мэла, Фэрнанда Энрыке Кардоза, паводле паведамленьняў мэдыяў, меў сына , народжанага па-за шлюбам, якому споўнілася 7 гадоў, калі бацька ўстаў на чале дзяржавы.

Аліна Фэрнандэс, якая называе сябе незаконна народжанай дачкой лідэра Кубы Фідэля Кастра, стала ягоным зацятым ворагам. Напачатку 1990-х яна пераехала ў ЗША, ва Флярыдзе ў яе было сваё радыёшоў, у якім яна кожную сераду выкрывала палітыку свайго бацькі.

Паводле чутак, цяперашні прэзыдэнт Туркмэністану Гурбангулы Бэрдымухамэдаў — ніхто іншы, як незаконны сын свайго папярэдніка, знакамітага Туркмэнбашы. Так што, паводле гэтых чутак, усходняя традыцыя перадачы ўлады ў спадчыну ў дадзеным выпадку насамрэч захавалася.

Нарэшце, ізноў жа чуткі прыпісваюць незаконна народжанае дзіця поўнаму антыподу туркмэнскага дыктатара — лідэру дэмакратычнай Грузіі Міхаілу Саакашвілі.

Што ў гэтых чутках праўда, а што не — хто ведае. Праўда тое, што грэшны чалавек, кім бы і дзе б ён ня быў — на вяршыні ўлады ці на дне жыцьця. І здаецца, што гэты грэх — ня самы страшны. Дарэчы, Мазарын суправаджала Мітэрана ў афіцыйных паездках, выклікаючы зьдзіўленьне назіральнікаў, але хто яна такая, высьветлілася пасьля сьмерці Мітэрана. Аднак насуперак ягоным перасьцярогам французы паставіліся да гэтага граху свайго былога лідэра надзвычай спакойна. Чаго ў жыцьці не бывае.

Праўда, варта адзначыць, што звычайна пладам свайго незаконнага каханьня кіраўнікі не прызначалі ў спадчыну сваю пасаду. Але, магчыма, і размовы Аляксандра Лукашэнкі пра прэзыдэнцкія пэрспэктывы ягонага малодшага — гэта такі своеасаблівы гумар, маўляў, адчапіцеся ад мяне, не рыхтую я сябе ніякага пераемніка, вось малы будзе пераемнікам. Бо хаця, як адзначыў адзін з чыноўнікаў, прэзыдэнт у Беларусі "крыху вышэй за Бога", па меншай меры адзінае, што яму не падпарадкоўваецца — гэта час. Што будзе праз 20-30 гадоў, калі Мікола Лукашэнка ўвойдзе ў больш-менш даросьлы век, ведае якраз Бог, а зусім не кіраўнік дзяржавы.

А калі ўсё ж ... Ну што ж, зусім сюжэт мэксыканскага сэрыяла, бо што нашае жыцьцё, як не бясконцы сэрыял?

# Беларусь стала адной з самых няшчасных краінаў

Charter97.org

**Інтэрнэт-партал World Database of Happiness (Сусветная база звестак пра шчасце) выклаў вынікі даследаванняў, у якіх назваў самыя шчаслівыя і няшчасныя краіны свету.**

Аўтары працы разглядалі 95 дзяржаваў. Сярод самых няшчасных краінаў першымі сталі Беларусь і Малдова. Пасля значацца Узбекістан, Руанда і Зімбабвэ.

Паводле атрыманых звестак, першыя пазіцыі ў незвычайным хітпарадзе шчаслівых краінаў займаюць Швейцарыя і Данія. За імі ў рэйтынгу ідуць Аўстрыя, Ісландыя, Фінляндыя, Аўстралія, Швецыя, Канада, Гватэмала, Люксембург, Ірландыя, Мексіка і Нарвегія.

World Database of Happiness - інтэрнэтпартал, дзе сабраны матэрыялы, прысвечаныя навуковаму вывучэнню шчасця. Ён кіруецца універсітэтам Эразма Ратэрдамскага ў Нідэрландах і Рутам Вэнховэнам - сацыёлагам і псіхолагам. Вэнховэн зацікавіўся пытаннем, што такое шчасце і як яго дасягнуць, калі быў яшчэ студэнтам. У канцы 90-х гг. ён заснаваў свой партал у Інтэрнэце, куды рэгулярна выкладаюцца псіхалагічныя і сацыялагічныя даследаванні па гэтым актуальным пытанні.

Навуковец лічыць, што галоўная перадумова для шчаслівага жыцця - жыць у слушнай краіне. Менавіта таму значнае месца ў яго працах надаецца рэйтынгу самых шчаслівых дзяржаваў. Пераможцы змяняюцца з году ў год, аднак агульная тэндэнцыя застаецца відавочнай: лепш за ўсё пачуваюцца жыхары стабільных краінаў Еўропы.

Яшчэ адна цікавая тэндэнцыя, якую адзначае World Database of Happiness, датычыць змены самаадчування еўрапейцаў пачынаючы з апошняй трацины мінулага стагоддзя. Так, на думку Рута Вэнховэна, узровень задаволенасці людзей падвысіўся ад 1975 г. у большасці заходніх краінаў.

НАШ Магілёў
Незалежнае грамадзка - палітычнае выданьне Горада
Выдавец Андрусь Воўкаў, дырэктар Вітольд Няўрыда.
Надрукавана на ксэраксе ў горадзе Магілёве. Наклад: 299 ас.
Кантакт: Магілёў, 212017, а/с 46
Gazetanm@yandex.ru
Тыражаваньне й распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца й вітаецца. Распаўсюд бясплатны.
НАШ Магілёў